*Юлия Слуцкая, ее сын Пётр, а также коллеги Сергей Ольшевский и Алла Шарко вышли на свободу.*

*На простор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 63 (4623)**

20 жніўня 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



# Народная Воля

**Дзякуй усім, хто падтрымлівае «Народную Волю» ў гэты надзвычай цяжкі час.**

*Рэдакцыя.*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Аляксандр КАЛЕСНІКАЎ:

# «Без кветак не прыходжу…»

*Бацька Марыі Калеснікавай распавёў «Народнай Волі», як у Мінскім абласным судзе праходзіць закрыты працэс над яго дачкой і Максімам Знакам.*



Аляксандр Калеснікаў кожны дзень прыходзіць да суда з кветкамі.

Прадстаўнікоў каманды экс-прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта Віктара Бабарыкі, членаў прэзідыума Каардынацыйнага савета па ўрэгуляванні палітычнага крызісу ў Беларусі **Марыю Калеснікаву** і **Максіма Знака** абвінавачваюць па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса Беларусі: ч.3 арт.361 (заклікі да дзеянняў супраць нацбяспекі), ч.1 арт.357 (змова з мэтай захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам), ч.1 арт.361-1 (стварэнне экстрэмісцкага фарміравання і кіраўніцтва ім). Ім пагражае да 12 гадоў турмы.

Разглядае справу суддзя **Сяргей Епіхаў**.

Ужо больш за год бацька Марыі **Аляксандр КАЛЕСНІКАЎ** пазбаўлены магчымасці бачыць сваю дачку. У будынак суда яго, як і іншых, не прапускаюць.

– Мы звычайна з блізкімі і знаёмымі збіраемся на вуліцы ля будынка суда, – кажа Аляксандр Паўлавіч. – Падыходзяць сябры, аднадумцы…

Напрыканцы мінулага тыдня падышлі дзве маладыя дзяўчыны, а ўжо вечарам я даведаўся, што іх затрымалі, а затым асудзілі. Выкладчыцы Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта **Валерыі Крамянеўскай** далі 14 сутак арышту, а **Аляксандры Мішчанка** – 30 сутак.



І за кратамі Марыя не губляе аптымізму.

Я быў на судзе над дзяўчатамі, пазнаёміўся з іх бацькамі, супакоіў, наколькі гэта было магчыма. А ўвогуле, тое, што дзяўчат судзілі за пікетаванне, гэта не паддаецца ніякай логіцы. У такім выпадку любую сустрэчу сяброў на вуліцы можна падвесці пад гэты артыкул.

**– Так і не ўдалося хаця б убачыць дачку?**

– Не дазваляюць. Гэта альбо палахлівасць улад, альбо нежаданне даваць лішнюю падставу для таго, каб у СМІ трапляла інфармацыя пра гэты суд.

Але ў любым выпадку я кожны дзень прыходжу да будынка суда. Зараз стараюся трымацца ад яго далей, каб не падстаўляць выпадковых людзей, якія захочуць да мяне падысці і могуць быць арыштаваны за «несанкцыянаванае пікетаванне».

Адвакатаў сустракаю таксама далей ад будынка суда, а паколькі дачку абараняюць дзве жанчыны, то штодзень прыношу ім кветкі і прашу, каб яны абавязкова памахалі букетам Марыі і такім чынам паведамілі, што тата заўсёды побач.

**– У сацыяльных сетках з'явілася інфармацыя, што Марыя спявае канваірам і Гендэля, і вакаліз Рахманінава, і танга нуэва «Libertango» Астара П'яцолы… Аптымізму не губляе?**

– Я ніколі не думаў, што нават у такі складаны для дачкі перыяд буду да гэтага так узвышана ставіцца. Вы не ўяўляеце, наколькі сваімі ўчынкамі Маша мяне падтрымлівае і натхняе! Яна паказвае сваю ўнутраную свабоду. Усё гэта выклікае і ўсмешку, і радасць, а дэпрэсіі зусім няма.

**– Ці даходзіць нейкая інфармацыя пра тое, як праходзіць сам працэс?**

– Адвакаты знаходзяцца пад падпіскай аб неразгалошванні, таму дэталі суда невядомыя. Але для мяне галоўнае – ведаць, як адчуваюць сябе Марыя і Максім. А настрой у іх бадзёры!

Я цудоўна разумею, што мы мала на што можам паўплываць, а ўсё астатняе – на сумленні суддзяў. Хаця ўнутрана я гатовы да таго, што будзе ў судовым рашэнні пры горшым раскладзе. І пра гэта рашэнне, магчыма, даведаемся ўжо праз два-тры тыдні, улічваючы, што суды над Машай і Максімам праходзяць практычна кожны дзень.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЖНІВО-2021

# На фінішы

Абмалот зерневых і зернебабовых культур (без кукурузы, грэчкі і проса) у Беларусі падыходзіць да завяршэння. Сярэдняя ўраджайнасць крыху больш за 80 цэнтнераў з гектара. Не пашанцавала сёлета на жыта (25,6 ц), затое пшаніца ўдалася – на круг выходзіць па 37,4 цэнтнера.

Калі параўноўваць з мінулым годам, то сёлета хлебная ніва не такая ўрадлівая – з кожнага гектара аграрнікі недабяруць прыкладна шэсць цэнтнераў зерня. Праўда, гродзенскім земляробам грэх скардзіцца – у сярэднім яны намалочваюць па 37,6 цэнтнера зерня з гектара. Другое месца па ўраджайнасці займаюць сельгасвытворцы Мінскай вобласці.

У цэлым беларускія вяскоўцы намалацілі ўжо больш за шэсць мільёнаў тон зерня. У любым выпадку краіна без хлеба не застанецца.



ПОЗИЦИЯ

# «Мы продолжим работу»

*БелаПАН выступил с заявлением в связи с задержанием своих сотрудников.*

*«БелаПАН расценивает происходящее как продолжение политики подавления свободы слова в Беларуси и требует немедленного освобождения задержанных коллег, а также всех находящихся в заключении журналистов»,* – говорится в заявлении.

*«Работа компании в Минске парализована, однако часть редакции находится в безопасности за пределами Беларуси и продолжит работу, чтобы обеспечивать подписчиков и читателей оперативной и достоверной информацией, как это было на протяжении почти 30 лет со дня создания БелаПАН»,* – заявляет редакция.

Напомним, 18 августа в офисе и у пяти нынешних сотрудников и у одного экс-работника БелаПАН прошли обыски.

В итоге главред **Ирина Левшина**, бухгалтер **Екатерина Боева**, бывший директор БелаПАН **Дмитрий Новожилов** водворены в ИВС на Окрестина.

РЭПРЭСІІ

# Саюз пісьменнікаў, заснаваны яшчэ ў 1934 годзе Янкам Купалам і Якубам Коласам, пад пагрозай закрыцця

За апошні час у Беларусі па ініцыятыве ўлады ліквідавана больш за паўсотні грамадскіх арганізацый, палова з якіх – асветніцка-культурніцкія, што займаліся папулярызацыяй беларускай мовы і гісторыі. У лік ліквідаваных трапіла, напрыклад, «Мова нанова», чые моўныя курсы паспяхова працавалі ў пятнаццаці гарадах, зацікаўліваючы пераважна моладзь.

Чым выклікана такая нецярпімасць улады да грамадскіх ініцыятыў і праектаў – вытлумачыць цяжка, хутчэй за ўсё, падазрэнне ў чыноўнікаў выклікае ўсё, што не санкцыянавана і не прадугледжана зверху. Згаданая «Мова нанова» – адна з наймаладзейшых арганізацый (дзейнічала ўсяго некалькі гадоў). Але вось чарга дайшла і да найстарэйшай – пагроза закрыцця навісла і над Саюзам беларускіх пісьменнікаў. Днямі Вярхоўны суд паведаміў, што прыняў да разгляду іск Міністэрства юстыцыі аб ліквідацыі СБП (першае судовае пасяджэнне мае адбыцца 24 жніўня). А перад гэтым у сядзібе Саюза пісьменнікаў і на кватэры яго старшыні Барыса Пятровіча адбылісяператрусы. Цяпер сядзіба апячатана, а старшыня – пад падпіскай аб нявыездзе.

Каментуючы паведамленне Вярхоўнага суда, Барыс Пятровіч прыгадаў, што спроба знішчыць СБП ужо была – яшчэ ў 2006 годзе, але тады ў тым жа Вярхоўным судзе ўдалося адвесці ад арганізацыі ўсе абвінавачанні. *«Мы да апошняга спадзяваліся, што Міністэрства юстыцыі ўлічыць нашы тлумачэнні адносна таго, што пасля апячатання памяшкання, у якім знаходзіцца офіс Саюза беларускіх пісьменнікаў, у нас фізічна не было магчымасці прадставіць патрэбныя дакументы. На жаль, гэтага не адбылося. Такім чынам, найстарэйшая пісьменніцкая арганізацыя Беларусі, заснаваная яшчэ ў 1934 годзе Янкам Купалам і Якубам Коласам, можа спыніць сваё існаванне. Але мы паспрабуем у судзе абараніць свае правы і даказаць нашу правату»,* – заявіў кіраўнік пісьменніцкай арганізацыі, якая на сёння налічвае 450 сяброў.

Варта нагадаць, што неабвешчаную вайну з незалежным Саюзам пісьменнікаў улада вядзе даўно. Яшчэ на пачатку 2000-х у СБП былі адабраны Дом літаратара (цяпер гэта прыбытковы аб'ект у камерцыйнай структуры Кіраўніцтва справамі прэзідэнта), паліклініка, друкаваныя выданні (газета і тры часопісы), а таксама Дом творчасці і адпачынку «Іслач» пад Ракавам. У піку абрабаванаму саюзу ўлада стварыла свой – пад кіраўніцтвам адстаўнога міліцэйскага генерала Мікалая Чаргінца.

Саюз беларускіх пісьменнікаў заўсёды паслядоўна выступаў у абарону беларускай мовы, дэмакратычных каштоўнасцяў і свабоды слова. Не адседжваўся ў зацішку ён і пасля леташніх прэзідэнцкіх выбараў – прыняў некалькі заяў з асуджэннем дзяржаўных рэпрэсій.

У розны час у кіруючыя органы СБП уваходзілі такія знакамітыя творцы, як Пятрусь Броўка, Міхась Лынькоў, Іван Шамякін, Максім Танк, Ніл Гілевіч, Васіль Быкаў, Васіль Зуёнак, Вольга Іпатава, Уладзімір Някляеў, Святлана Алексіевіч і іншыя.

Перажыўшы розныя палітычныя рэжымы (у тым ліку акупацыйны), Саюз беларускіх пісьменнікаў сёння апынуўся перад рэальнай пагрозай ліквідацыі. Што, вядома ж, створыць нечуваны прэцэдэнт і яшчэ раз прадэманструе антынацыянальную сутнасць цяперашняй улады.

Сталін, які паводле слоў Лукашэнкі, выказаных падчас нядаўняга «Большого разговора», заслугоўвае помніка, і той разумеў ролю пісьменнікаў у грамадстве. Аднойчы да яго на прыём папрасіўся нованрызначаны кіраўнік Саюза пісьменнікаў СССР і паскардзіўся, што працаваць з майстрамі пяра не можа – тыя не жадаюць быць паслухмянымі прысяжнымі рамянямі партыі, расказваюць антысавецкія анекдоты, пішуць адзін на аднаго даносы, злоўжываюць алкаголем… Сталін строга зірнуў на скаржніка і сказаў як адрэзаў: «Других пісьменнікаў у мяне для вас няма. Таму ідзіце і працуйце з тымі, якія ёсць».

Як выглядае, працаваць з пісьменнікамі, «якія ёсць», беларуская ўлада не жадае...

**Антон ЗАГОРСКІ.**

ВІНШУЕМ!

# З 80-годдзем, Сямён Уладзіміравіч!

Ён з тых, каго Бог пацалаваў у макаўку. Ён – знакаміты літаратуразнаўца. Многія з сённяшніх прыстасаванцаўакадэмікаў па інтэлекце і побач з ім не сталі.

Яго пяру можа пазайздросціць кожны другі (ці не першы?) з чаргінцоўскага Саюза пісьменнікаў. Але ён застаецца верным той творчай суполцы, якую ў далёкія 1930-я гады заснавалі Колас і Купала.

Яго жыццёвы прынцып – не быць прыстасаванцам, пры любых абставінах заставацца самім сабой – Сямёнам Букчыным.

Пакуль не падводзіла здароўе, ён нястомна працаваў у самых розных жанрах. На яго творчым рахунку не адзін літаратурны твор. Чытачы «Народнай Волі» ўдзячны яму за мноства вострапубліцыстычных артыкулаў.



У гэтыя дні Сямён Уладзіміравіч Букчын адзначае сваё 80-годдзе. Трымайся, браце! Дачакайся, абавязкова дачакайся таго светлага дня, калі імгла рассеецца над Беларуссю і табе захочацца зноў узяць у рукі пяро і яшчэ не раз парадаваць прыхільнікаў «Народнай Волі» і твайго таленту.

**Народавольцы.**

Народная Воля http://www.nv-online.info 20 ЖНІЎНЯ 2021 г.

ЗАКУЛИСЬЕ

# Бывший прокурор Генеральной прокуратуры теперь работает в «чижовской» компании «Трайпл»

***Сергей Тележевич** отдал органам прокуратуры около 20 лет своей жизни и до сих пор является довольно узнаваемой персоной.*


Элеонора Сизук с адвокатом Сергеем Тележевичем.

Он появлялся в качестве госсобвинителя на многих громких процессах. Например, требовал для экс-главы «Белнефтехима» **Александра Боровского** 6 лет лишения свободы, для экс-прокурора Минской области **Михаила Снегиря** – 8 лет колонии.

Некоторое время назад Тележевич вдруг сменил сферу деятельности: стал не обвинять, а защищать – переквалифицировался в адвокаты. И тоже был весьма заметен на резонансных судебных слушаниях. Одно из таких – дело экс-председателя «Белкоопсоюза» **Сергея Сидько**, которому в итоге дали 12 лет лишения свободы. Тележевич тогда представлял интересы бывшей чиновницы «Белкоопсоюза» **Элеоноры Сизук**.

Любопытно, что на суде по делу **Александра Боровского** на одном из заседаний обсуждалась спорная сделка именно с компанией «Трайпл», и озвучивал этот факт из материалов уголовного дела как раз Сергей Тадеушевич Тележевич.

Впрочем, это уже дела давно минувших дней. Однако факт остается фактом: бывший прокурор может знать немало различных фактов про компанию, в которой ныне работает.

Сергей Тележевич сегодня является директором компании **«ТрайплФарм»**, а весной этого года его представляли как заместителя директора ООО «Трайпл» по юридическим вопросам.

*«ТрайплФарм» – фармацевтическое предприятие по производству дженериков высокого качества*, – написано на официальном сайте. – *СООО «ТрайплФарм» основано в 2008 году, и, несмотря на относительно молодой для фармацевтической отрасли возраст, предприятие входит в пятерку лидеров среди иностранных и отечественных производителей продукции для госпитального сегмента фармацевтического рынка Республики Беларусь».*

Тележевич также имеет доверенность от **Юрия Чижа** на представление его интересов. Возможно, именно поэтому не так давно он появился возле имения Юрия Чижа в элитном поселке закрытого типа Логожеске, куда наведались судебные исполнители, чтобы по решению суда взыскать с Чижа долг.

Вообще, через «Трайпл» в разное время прошло немало заметных персон. Так известно, что сегодня интересы Юрия Чижа представляет и бывшая чиновница Минюста **Наталья Березовская**, шесть лет назад осужденная за коррупцию. Она была заместителем начальника управления адвокатуры и лицензирования юридической деятельности Министерства юстиции, получила 4 года колонии с конфискацией имущества и штраф за взятку.

Одно время службу безопасности «Трайпла» возглавлял экс-командир минского ОМОНа **Юрий Подобед**, а когда он ушел оттуда, его сменил не менее известный выходец из антитеррористического подразделения «Алмаз».

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

# Что слышно по делу Юрия Чижа?

*А ничего!*



«Народная Воля» отправляла по этому поводу вопрос в пресс-службу КГБ, однако там его по каким-то причинам проигнорировали.

Известно, что Юрий Чиж по-прежнему не на свободе, меру пресечения ему не изменили, а адвокаты Чижа хранят категорическое молчание. Их, в общем-то, понять можно. Во-первых, подписка о неразглашении. Во-вторых, даже в лучшие времена Чиж предпочитал весьма осторожно общаться с прессой. И когда он первый раз попал в следственный изолятор и провел там почти полгода, ситуация была очень похожей – адвокаты молчали, Чиж просил их не распространяться по поводу уголовного дела.

Правда, тогда хотя бы официальные органы озвучивали, что конкретно инкриминируется известному бизнесмену, который, к слову, немало сделал для страны и для некоторых представителей нынешней власти.

На фоне полнейшей тишины по делу Чижа возникает немало самых разных версий, почему он сидит. Некоторые вообще шутят, что всё дело в… бело-красно-белом портрете Чижа, который еще в 2011 году презентовали ему на день рождения сотрудники «Трайпла». Автор портрета – художник Артем Пронин. Сотрудники «Трайпла» хотели, чтобы их босс был изображен в каком-то историческом образе, но мундир чиновника или генерала XIX века казался им слишком банальным. Тогда совместно с художником было решено сделать из него римского патриция…

Шутки, конечно, шутками, но всё равно хотелось бы получить официальные комментарии по делу Чижа от председателя КГБ или Следственного комитета. В конце концов, Чиж был не самым последним бизнесменом в стране, в свое время он с Александром Лукашенко не только косил траву, но и получал из его рук орден Отечества III степени. За заслуги.

*«В последние годы особое звучание приобрела тема партнерства государства и частного бизнеса, повышения его социальной ответственности*, – говорил тогда Лукашенко. – *И здесь у нас немало хороших примеров взаимодействия как в развитии производственного потенциала, так и в реализации социальных программ».*

На фото с этого мероприятия Чиж и Лукашенко крепко пожимают друг другу руки. Интересно, что они сказали бы друг другу сейчас?

**Марина КОКТЫШ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Калі пачнецца суд над Эдуардам Бабарыкам?

*Сын экс-прэтэндэнта на прэзідэнцкую пасаду Віктара Бабарыкі знаходзіцца за кратамі ўжо больш за год.*



Нагадаем: Эдуард Бабарыка быў кіраўніком ініцыятыўнай групы прэтэндэнта ў кандыдаты на пасаду прэзідэнта Віктара Бабарыкі.

Акрамя таго, сын **Віктара Бабарыкі** – бізнесмен. Ён заснавальнік краўдфандынгавай пляцоўкі «Улей» і сузаснавальнік пляцоўкі «MolaMola».

Яго разам з бацькам затрымалі і змясцілі ў СІЗА КДБ 18 чэрвеня 2020 года. Эдуард Бабарыка абвінавачваецца паводле ч.2 арт.243 КК Беларусі (ухіленне ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры), яму пагражае да 5 гадоў абмежавання волі.

*«Пакуль не вядома пра дату пачатку працэсу,* – паведаміла «Народнай Волі» **Ірына ВАРОНІНА**, адвакат Эдуарда Бабарыкі. – *А ў астатнім у яго ўсё па-ранейшаму. У камеры Эдуард малюе, чытае кнігі, крыху займаецца спортам, адказвае на лісты. Настрой бадзёры…»*

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

ТАМ, ЗА КРАТАМІ

# Нязломны Ігар Банцэр

*Вядомага музыканта пакінулі ў штрафным ізалятары за «чарговае парушэнне рэжыму».*

Нагадаем: **Ігар Банцэр** быў затрыманы па крымінальнай справе аб хуліганстве – за тое, што танцаваў перад міліцыяй без штаноў.

У рэшце рэшт музыканту прысудзілі 1,5 года «хіміі», зараз ён адбывае пакаранне ў папраўчай установе адкрытага тыпу №9 г.Віцебска.

Як паведамляюць знаёмыя Ігара Банцэра, ён быў змешчаны ў штрафны ізалятар на 10 сутак пасля некалькіх парушэнняў рэжыму, але на гэтым тыдні з ШІЗА так і не выйшаў. Пакаранне яму працягнулі яшчэ на 10 сутак.

Дарэчы, у гэтай установе Ігар знаходзіцца ўжо каля двух месяцаў, але за гэты час ён так і не прайшоў медкамісію і не змог уладкавацца на працу.

*– Настрой у музыканта бадзёры, ён паведаміў, што ніхто і нішто не здолеюць яго зламаць,* – дадалі яго сябры.

**Віктар ШПАК.**

ЧУЛІ?

# Польшча адправіла для аховы мяжы з Беларуссю 1000 салдат

Для аховы мяжы з Беларуссю, дзе адбываюцца спробы незаконнага перасячэння, былі накіраваны дадатковыя супрацоўнікі Памежнай службы і тысяча салдат Войска Польскага, паведамляе **«Радыё Польшча»**.

За суткі Памежная служба перашкодзіла ў перасячэнні мяжы 130 мігрантам, а 8 замежнікаў былі арыштаваны.

Паводле дадзеных Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі Польшчы, з пачатку жніўня польска-беларускую мяжу спрабавалі нелегальна перасячы 2100 чалавек.

Агульная працягласць польскай мяжы з Беларуссю складае 418 кіламетраў.

БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ!

# Каранавірус набірае абароты?

Міністэрства аховы здароўя паведамляе, што за суткі зарэгістравана 1355 выпадкаў захворвання на COVID-19 (памерлі 8 чалавек), а выпісаны 1408 пацыентаў.

Днём раней паведамлялася пра 1061 выпадак (12 чалавек памерлі).

З пачатку пандэміі зарэгістраваны 465.210 чалавек са станоўчым тэстам на каранавірус, выздаравелі 459.090.

За ўвесь час памерлі 3649 чалавек.

За мінулыя суткі выканана 20.457 тэстаў.

1,52 мільёна беларусаў атрымалі першую дозу вакцыны, 1,24 мільёна прайшлі поўны курс вакцынацыі.

СТАЛА ВЯДОМА…

# У Брэсце 108 чалавекам выстаўлена абвінавачанне

Следчы камітэт пракаментаваў гэтак званую «карагондую справу» ў Брэсце – падзеі 13 верасня 2020 года на скрыжаванні праспекта Машэрава, бульвара Касманаўтаў і бульвара Шаўчэнкі, калі пратэстоўцы перакрылі рух і зладзілі карагод, а потым былі паліты з вадамёта.

СК кваліфікуе гэта як актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак.

Паведамляецца, што ўстаноўлены 115 чалавек, якія маюць дачыненне да «здзяйснення дадзенага злачынства».

108 чалавекам выстаўлены абвінавачванні паводле ч.1 арт.342 (актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак, якія прывялі да парушэння працы транспарту і прадпрыемстваў) КК.

Судзяць гэтых людзей групамі, даюць ад «хатняй хіміі» да рэальных тэрмінаў.



ЛІСТЫ НА ВОЛЮ

# Мастак Алесь Пушкін павіншаваў сына з паступленнем у медуніверсітэт

*Пра сваю крымінальную справу палітвязень нічога не паведамляе.*

Нагадаем: 30 сакавіка **Алеся Пушкіна** затрымалі ў вёсцы Жылічы Кіраўскага раёна, дзе ён працаваў на рэстаўрацыі палаца Булгакаў.

Мастак – фігурант крымінальнай справы, якую распачала пракуратура паводле ч.3 арт.130 Крымінальнага кодэкса (распальванне варожасці): *«за ўчыненне наўмысных дзеянняў, накіраваных на рэабілітацыю і апраўданне нацызму»*. Падставай для гэтага стаў партрэт антысавецкага падпольшчыка Яўгена Жыхара, які быў выстаўлены ў прыватным «Цэнтры гарадскога жыцця» ў Гродне.

*– На гэтым тыдні ад Алеся прыйшоў чарговы ліст, ён ішоў тыдзень,* – паведаміла «Народнай Волі» Яніна, жонка мастака. – *Пра сваю справу і свой побыт традыцыйна – ні слова.*

*Найперш Алесь віншаваў Міколку з паступленнем у ВНУ. Сын у нас – малайчынка, без праблем паступіў на лячэбны факультэт Гродзенскага медыцынскага ўніверсітэта. Клопату мне як маці Мікола не даставіў. І бацьку парадаваў добрымі навінамі з волі.*

Яніна распавядае, што ў мужа, відаць, ёсць магчымасць маляваць і ён нават дасылаў ёй свае ілюстрацыі. Але дадае:

*– Аднак да мяне дайшла толькі адна з усіх дасланых, і Алесь быў вельмі расчараваны гэтым. Астатнія ілюстрацыі кудысьці зніклі…*

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ

# Ад чаго «пераварочваецца ў труне» Янка Купала?

У напаўжывым Купалаўскім тэатры яшчэ год таму малапрыкметная Вольга **Няфёдава** сёння – і жнец, і швец, і на дудзе ігрэц. Запатрабаваная, як ніхто. І адна з вядучых акцёрак у адноўленай з горам папалам «Паўлінцы», і пастаноўшчыца гэтага спектакля-візітоўкі, і мастацкі кіраўнік усяго тэатра, і яго фактычны спікер – у шматлікіх інтэрв'ю ахвотна абмяркоўвае ўсе датычныя тэатра тэмы. Проста салаўём заліваецца. Паслухаеш краем вуха і міжволі задасіся пытаннем: як жа такі каштоўны кадр прападаў за кулісамі раней? І з палёгкай падумаецца: ну нарэшце галоўны тэатр краіны пад энергічным кіраўніцтвам Няфёдавай немінуча пойдзе (бягом пабяжыць!) да небывалага росквіту.

Але калі прыслухацца больш уважліва да таго, што гаворыць з экрана новаяўлены Станіслаўскі ў спадніцы, то эйфарыю як рукой здымае, і хочацца крычаць «Каравул!». Каб не быць галаслоўным, спашлюся на выступленне Няфёдавай у праграме «Ничего личного», якую вядзе на АНТ Марат Маркаў.

Крытыкуючы купалаўцаў, якія пакінулі тэатр у жніўні мінулага года, Няфёдава дагаварылася да таго, што ім варта было б… вярнуць атрыманыя калісьці ад дзяржавы кватэры. Так-так, здаць на тэатральны склад, як выкарыстаныя дэкарацыі. А самім жыць ці то ў палатках за МКАДам, ці то ў лясных буданах у пушчах Палесся. Праведны гнеў так і распірае акцёрку: «*Если вы были обласканы, принимали, получали, то почему вы принесли под двери театра только грамоты, а не ключи от квартир, деньги, которые получали? Вы обязаны вернуть государству всё, что вам давалось. Отказывайтесь от пенсий – они госудасртвенные, если государство вас не устраивает*».

Гэта не булгакаўскі Швондзер – герой «Сабачага сэрца» – збалантэсіў, гэта прамовіла новаспечаная мастацкая кіраўніца Купалаўскага тэатра! Дай ёй волю – відаць, пайшла б з атрадам амапаўцаў адбіраць кватэру ў народнага артыста Віктара Манаева. Ці – высяляць на вуліцу народную артыстку Зою Белахвосцік. Ці, разам з ГУБАЗІКам падпільнаваўшы ў цёмным двары Мікалая Пінігіна, забрала б у яго пенсіённую картку. Бо яны ж пакінулі дзяржаўны тэатр, выступілі з пратэстам, «их государство не устраивает».

Чакайце-чакайце, а з якой такой ласкі Вольга Няфёдава вырашыла, што названыя вышэй купалаўцы ды іх калегі-аднадумцы выступаюць супраць дзяржавы? Якраз наадварот! І купалаўцы, і сотні тысяч грамадзян Беларусі, што выйшлі на вуліцы пасля сфальсіфікаваных прэзідэнцкіх выбараў, – перакананыя прыхільнікі беларускай дзяржаўнасці. І выступаюць, вядома ж, не супраць яе, а супраць дзікага гвалту і ўладатрымаўцы, які гэты гвалт санкцыянаваў, які з тою самаю дзяржаўнасцю вось ужо 27 гадоў гуляецца, як дзіця з цацкаю ў пясочніцы. То нейкае «союзное государство» стварае, то ганарыцца сваім «ацечаствам» ад Буга да Курылаў, то збіраецца размясціць у Беларусі мільённую расійскую армію. Вось каго беларуская дзяржава чамусьці «не устраивает», а не звольненых купалаўцаў, чые кватэры і дзяржпрэміі не даюць спакойна спаць Няфёдавай.

Зрэшты, хіба тыя ж Манаеў з Пінігіным сваімі талентамі не заслужылі тых кватэр і прэмій ад народа, з чыіх падаткаў і складаюцца розныя дзяржаўныя падзякі? Яшчэ як заслужылі. То каму і навошта яны павінны нешта вяртаць?

Дала фаеру Няфёдава ў сваім інтэрв'ю і далей. Ненавісныя ёй «пратэстуны», аказваецца, залішне часта трывожаць цені вялікіх. «*Отколупывают Купалу, Маяковского, их уже затерли, те уже в гробах делают кульбиты невероятные*».

З «отколупнутым» (які выкшталцоны стыль!) Купалам справа ясная – ён патрэбны, актуальны і незаменны. І ў тэатры, і на вуліцы. А пры чым тут Маякоўскі? А ён, вяшчала Няфёдава, аўтар узнятага на шчыт змагарамі двухрадкоўя «*Поэтом можешь ты не быть, / а гражданином быть обязан*». Так, на яе думку, «горлан и главарь» савецкай паэзіі ў 1926 годзе пасцябаўся з бальшавікоў, якія вырашылі «*поэтов и писателей приравнять к рабочим и служащим*».

Бог ты мой, ды любы старшакласнік ведае, што выслоўе тое афарыстычнае прыдумаў не Маякоўскі, а Някрасаў – у вершы «Паэт і грамадзянін» (1855). Школьнік ведае, а мастацкая кіраўніца Купалаўскага – не. Класікі не засвоіла, а ўзялася кіраваць класічным тэатрам.

Вось ад чаго «пераварочваецца ў труне» Янка Купала, а не ад таго, што яго духаўздымны лозунг «Жыве Беларусь!» народ тысячагалоса і суладна выкрыкваў на шматлікіх шэсцях па ўсёй краіне.

А яшчэ «перавярнуўся ў труне» класік з-за таго, што сцэна яго-нага тэатра ў час гэтак званага прастою стала пляцоўкай для пахабнага рускамоўнага шансону гурта «Галасы ЗМеста», які пасля ганебных гастроляў у Купалаўскім меў намер зганьбіць усю Беларусь на конкурсе «Еўрабачанне».

А яшчэ абурэнне песняра выклікае тое, што зняты на «Беларусьфільме» выдатны фільм «Купала» вось ужо трэці год забаронены да афіцыйнага паказу.

А яшчэ не дае спакою Купалу той факт, што сёлета ў сталіцы незалежнай Беларусі па-беларуску будуць навучацца толькі два адсоткі школьнікаў. Два адсоткі! Хутка ў тым жа Купалаўскім тэатры запатрабуюцца перакладчыкі спектакляў з роднай мовы.

А яшчэ… Зрэшты, пералічваць падобныя факты можна бясконца.

Вось над чым хай бы задумалася мастацкая кіраўніца Нацыянальнага Купалаўскага тэатра Вольга Няфёдава замест таго, каб адбіраць кватэры, прэміі і пенсіі ў сваіх былых калег.

ЗА ПРАХАДНОЙ

# Звольнілі без тлумачэння прычын. Потым паклікалі назад

*На ААТ «Гродна Азот» пачалі запрашаць на працу работнікаў, якім некалькі месяцаў таму без тлумачэння прычын не працягнулі працоўныя кантракты. Як правіла, рабочыя былі членамі Беларускага незалежнага прафсаюза.*



## Некалькі месяцаў таму…

Рабочы ААТ «Гродна Азот» **Андрэй Піліпенка** адпрацаваў на прадпрыемстве 12 гадоў, быў апаратчыкам падрыхтоўкі сыравіны паўфабрыкатаў, і кіраўніцтва рэкамендавала яго на больш кваліфікаваную працу – апаратчыкам грануляцыі. Толькі вось усе яго прафесійныя і чалавечыя якасці не пераважылі той факт, што ён быў сябрам Беларускага незалежнага прафсаюза. Увесну яму, як і яшчэ каля дзесяці працаўнікам, якія ўваходзілі ў незалежны прафсаюз, не працягнулі кантракт.

Намеснік генеральнага дырэктара па бяспецы і кадрах **Алег Жывушка** так патлумачыў Піліпенку адмову ў працягненні кантракта: «*Адмовілі на падставе таго, што маем права...*» «Народная Воля» тады пісьмова звярталася да спадара Жывушкі за тлумачэннямі, але адказу дагэтуль няма.

Піліпенка распавядаў, што члены афіцыйнага прафсаюза з яго цэха раілі яму пакінуць шэрагі незалежнага, напісаць заяву на ўступленне ў іх арганізацыю, і, маўляў, тады праблема з працягненнем кантракта вырашыцца. Аднак Піліпенка, нягледзячы на тое, што ў яго двое непаўнагадовых дзяцей, крэдыты, адмовіўся гэта рабіць.

## Нечаканае тэлефанаванне

І вось днямі, распавёў Піліпенка, яму патэлефанаваў начальнік цэха і прапанаваў вярнуцца ў калектыў. Праўда, патлумачыў, што трэба будзе напісаць заяву на выхад з незалежнага прафсаюза, схадзіць на прыём да намесніка генеральнага дырэктара па бяспецы і кадрах. Ад былых калег спадар Андрэй ведае, што ў цэху быў сход, на якім прысутнічалі супрацоўнікі аддзела кадраў, і ім было зададзена пытанне адносна непрацягнення кантрактаў высакакласным спецыялістам. Прагучала, што, магчыма, у дачыненні да некаторых работнікаў зрабілі памылку, а таму ім варта прыйсці для размовы, і іх, маўляў, могуць прыняць на былое месца працы.

– *З павагі да свайго былога начальніка цэха я сказаў, што падумаю над прапановай,* – кажа Піліпенка. – *Але ісці туды не збіраюся.*

Атрымліваецца, звяртае ўвагу Піліпенка, што загад аб непрацягненні кантракта падпісвае адзін чалавек, а сутыкацца з тым, што ў цэху не стае кваліфікаваных спецыялістаў, даводзіцца другому:

– *І, на жаль, у першага паўнамоцтваў больш, чым у другога. Але тэхналагічны працэс не падпарадкоўваецца загадам «без тлумачэнняў». На «Азоце» сур'ёзная вытворчасць.*

Акрамя ўмовы напісаць заяву на выхад з незалежнага прафсаюза, ёсць другая акалічнасць. Адзін з былых калег, расказвае спадар Андрэй, напісаў заяву на выхад з незалежнага прафсаюза, яго прынялі на працу, але не аднавілі, а залічылі ў штат нанова. У выніку ў яго перарваўся стаж, ён згубіў усе даплаты.

– *І потым, я ж не сам звольніўся – мне не працягнулі кантракт І цяпер трэба ісці на прыём да таго самага Жывушкі?!* – задаецца пытаннем спадар Андрэй.

## «Прафсаюз мяне не кінуў»

За тры месяцы пасля звальнення Піліпенка так і не знайшоў сталую працу, хаця прапановы ёсць. Але пакуль у сілу абставін займаецца толькі падпрацоўкамі.

– *Дзякуй нашаму незалежнаму прафсаюзу: на працягу трох месяцаў такім, як я, аказваецца дапамога ў памеры 700 рублёў,* – распавядае мой суразмоўца.

Страху перад будучыняй у спадара Андрэя няма, ён перакананы, што працу, якую хоча, абавязкова знойдзе і на сям'ю заўсёды заробіць. Кажа, што не асуджае людзей, якія вяртаюцца на прадпрыемства:

– *Можна зразумець чалавека, які пасля школы скончыў хіміка-тэхналагічны тэхнікум, амаль 20 гадоў аддаў заводу і ў свае 50 раптам апынуўся без працы. У яго ж няма іншай прафесіі, куды яму ісці ў такім узросце?*

З аднаго боку, Піліпенка не хавае шкадавання, што страціў стабільную працу, але, з іншага, упэўнены, што ў жыцці трэба час ад часу многае мяняць, у тым ліку і прафесію.

– *Я нават чытаў, што калі чалавек вельмі доўга працуе на адным месцы, то ён губляе свае прафесійныя якасці.*

## Практыка непрацягнення кантрактаў членам незалежнага прафсаюза спынілася

Старшыня пярвічнай арганізацыі Беларускага незалежнага прафсаюза на ААТ «Гродна Азот» **Андрэй Ханевіч** пацвердзіў, што сапраўды былі выпадкі, калі члены іх арганізацыі, якім не працягвалі кантракт без тлумачэння прычын, атрымлівалі лісты з прапановай вярнуцца на працу.

Ён распавёў пра выпадак, калі член іх прафсаюза напісаў заяву аб выхадзе з арганізацыі, бо такой была ўмова яго вяртання на працу.

– *Мы чалавека не адгаворвалі, паколькі ён мае права сам вырашаць, дзе яму быць,* – гаворыць спадар Ханевіч. – *Вось Андрэй Піліпенка застаўся членам нашага прафсаюза і не пагадзіўся вярнуцца на працу. Яго мы таксама не ўгаворвалі.*

Не ўсе, з кім не працягнулі кантракт, прыходзяць да іх, кажа старшыня пярвічкі, а таму больш інфармацыі аб тым, ці атрымліваў яшчэ нехта падобныя лісты з запрашэннем вярнуцца на працу, у іх няма.

– *Праўда, што вельмі істотна, апошнім часам спынілася практыка непрацягнення працоўных кантрактаў членам нашага прафсаюза,* – канстатуе Ханевіч.

Губляць падрыхтаванага спецыяліста з досведам для іх прадпрыемства дорага і неразумна, упэўнены прафсаюзны лідар. Нават калі ў цэх прыйдзе чалавек з вышэйшай адукацыяй, усё роўна самастойна, без практыкі і кантролю адразу добра працаваць ён не здолее – такая спецыфіка вытворчасці. І гэта, падобна, пачалі разумець і тыя, хто прымаў няслушныя рашэнні.

Дарэчы, падчас нашай размовы ў офіс прыйшоў адзін з членаў прафсаюза і папрасіў ліст паперы, каб напісаць заяву на выхад з арганізацыі. Прадстаўляцца не захацеў. Патлумачыў, што робіць гэта таму, што сітуацыя няпэўная. Ад начальства адчуваецца непрыязнасць да сябраў незалежнага прафсаюза. А ў яго, маўляў, дрэннае здароўе, сям'я, крэдыты, і жонцы, якая працуе на ААТ «Молочный мир», за тое, што проста выйшла з афіцыйнага прафсаюза, могуць не працягнуць кантракт. Адным словам, прызнаўся, што страшнавата яму стала.

– *І такое бывае,* – кажа Ханевіч. – *І гэта, у прынцыпе, ужо не здзіўляе. Хутчэй здзіўляешся, калі зараз прыходзяць і пішуць заяву на ўступленне ў наш прафсаюз. І гэта не адзінкавыя выпадкі.*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

КАРТИНА ЖИЗНИ

# Вместо круассана с кофе – ОМОН и постановление на обыск

*Сопредседатель кампании «Говори правду» **Андрей Дмитриев** тонко подметил особенности жизни в Беларуси в последние месяцы.*

Как известно, силовики приходят с обысками к гражданским активистам, политикам и журналистам с самого раннего утра – к некоторым звонить и стучать в двери начинают даже раньше семи. К самому Дмитриеву тоже наведались ранним утром.

*«В Париже утро начинается с кофе,* – говорит Дмитриев. – *В Лондоне – с утренней газеты. В Нью-Йорке – с биржевых сводок. А в Беларуси – с обысков и допросов…»*

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Каб закрыўся жончын рот, дзед згламэздаў агнямёт

У вёсцы Горніца Гродзенскага раёна дзед хацеў глядзець па тэлевізары «Зорныя войны», а яго жонка – праграму «Жыць здарова». Моцна пасварыліся, адбылася нават патасоўка. З аэразолю і запальнічкі стары змайстраваў агнямёт і накіраваў яго на бабулю. Узбуджана крымінальная справа.

Любое нашае сяло
Калісьці засынала рана.
Чаму? Бо ў хаце не было
Блакітнага тэлеэкрана,
І паглядзець ніхто тады
Не мог канцэрт ці фільм цікавы.
Ды ў тым не бачылі бяды,
Бо ў ложку ладзілі забавы –
Стругалі, так сказаць, дзяцей
І спазнавалі асалоду…
Тэхнічны век усё часцей
Вяскоўцам стаў прыносіць шкоду:
Забаў у ложку ўжо няшмат,
І з дэмаграфіяй пагана,
Парой здараецца разлад
У сем'ях з-за тэлеэкрана.
Любіў глядзець, напрыклад, дзед
Усе касмічныя праграмы:
Пра невядомы нам Сусвет,
Пра Марс, для нас вядомы самы.
Стары і кнігу не адну
Гартаў пра зоркі і планеты.
Кіно пра зорную вайну
Глядзець збіраўся ў вечар гэты.
А жонка з дзёрзкасцю ўвачку
Рашучае сказала слова:
– Кіна не будзе! Я хачу
Глядзець праграму
«Жыць здарова».
Праграму тую паглядзець
Я раю і табе, дарэчы,
Бо ты ўжо клыпаеш ледзь-ледзь,
А ў ложку твой імпэт – старэчы…
Ну а стары ў сваю чаргу
Адказ на гэта выдаў колкі:
– Пакуль што ў ложку ўсё магу,
Аднак жа не з табою толькі!
Ты збоку на сябе зірні:
Па хаце ходзіш, як карова.
Не дапаможа ўжо ані
Табе праграма «Жыць здарова»!
І так счапіліся яны,
Што кухталі ўжылі ад злосці.
Стары – плюгавы, не мажны,
Як кажуць людзі, скура й косці.
Затое баба – бы сцяна.
Як навалілася гарою,
Дык дзеда сплюшчыла яна –
Ледзь не сканаў ён пад старою.
Ды неяк выбраўся. Сябе
Абтрос, як певень пух і пёры.
Не перамог у барацьбе,
Таму, вядома, не ў гуморы.
А на экране, не сакрэт,
Ішла праграма «Жыць здарова».
«Ну, пачакай! – падумаў дзед, –
Яшчэ расплацішся сурова
За непавагу да мяне.
Я дам табе адказ дастойны:
Сябе адчуеш на вайне
І зорныя пабачыш войны!
Запомніш іх на многа год!»
З аэразолю, запальнічкі
Зрабіў сапраўдны агнямёт.
Хоць ён мізэрны, невялічкі,
Ды выплюнуў агонь такі,
Што баба бедная самлела…
Затым суровыя дзядзькі
Прыйшлі да дзеда з райаддзела.
Не дагледзеў, на жаль, кіно,
І для старога ў гэтым драма…
Але яго, па ўсім відно,
Чакае хвацкая праграма!
***
Смяецца малады сусед:
– Каб не зусім засохлі мошчы,
Каб не сварыцца з бабай, дзед,
Глядзі праграмы пра любошчы…

### Складаней праполваць

Разумнае, добрае, вечнае
Мы сеем, як жыта, ячмень.
Аднак жа ёсць думка бясспрэчная:
Складаней праполваць штодзень…

### Грэшна і смешна

Кахаць за грошы – грэшна,
Кахаць без грошай – смешна.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

Денис ДАШКЕВИЧ:

# «Если мы уедем, то уже не вернемся…»

*«Народная Воля» решила поинтересоваться закулисными подробностями недавнего визита **Александра Лукашенко** в Рогачевский район у директора Центра культуры и досуга в Поболово **Дениса Дашкевича**.*

*Денис Дашкевич – известный местный активист в Рогачеве и наверняка мог попасть на эту встречу. Однако совершенно неожиданно выяснилось, что он уже несколько месяцев как сменил работу.*



**– Денис, с удивлением узнала, что вы больше не директор Центра культуры и досуга в Поболово. В свое время «Народная Воля» немало писала про ваши дела. Расскажите, что случилось?**

– Ну вы же знаете, что после президентских выборов минувшего года в стране многое поменялось…

В минувшем году к нам приезжала команда Светланы Тихановской, я и сам выступал на митинге как директор Центра культуры и как помощник депутата Палаты представителей Сергея Кравцова. Ясное дело, что я выступил с осуждением действий власти. На следующий день меня вызвали в райисполком, сказали, что государственный служащий так себя вести не должен.

Затем я отказался работать на избирательном участке – нам надо было музыку ставить. Я сказал, что не буду, поскольку не поддерживаю действующий режим. А уже после 24 октября присоединился к общенациональной забастовке, и меня уволили по статье за прогулы.

**– А помощником депутата вы остались?**

– Да.

**– Как интересно! И что говорит депутат?**

– Общаемся мы нормально, никаких проблем. Я знаю, что он присутствовал на инаугурации… Но мы с ним стараемся не касаться каких-то масштабных политических вопросов – занимаемся только теми проектами, которые были запланированы.

Он спокойно относится к моей политической позиции, а я – к его. Я не хочу быть таким агрессивным, как некоторые ябатьки, которые кидаются на людей с другими политическими взглядами. Я уважаю его позицию. Но при этом открыто говорю, что итоги выборов сфальсифицированы, а потому считаю Александра Лукашенко нелегитимным президентом.

После 9 августа, когда в стране уже появился интернет и стало известно о массовых фактах насилия, я пришел в райисполком и заявил, что не намерен участвовать ни в каких мероприятиях до тех пор, пока не будет проведено расследование всего того, что случилось. Когда Светлана Тихановская призвала к общенациональной забастовке, я написал заявление, что присоединяюсь к ней. Меня отправили в социальный отпуск, а затем уволили. После уже завели уголовное дело и водворили в изолятор.

**– За что?**

– За то, что я якобы ставил отработанные часы в табель, но в то же время на работе не находился.

**– Так было на самом деле?**

– Нет. Я приходил на работу, но отказывался исполнять свои обязанности. Это была итальянская забастовка. И прямо сказал: пока я директор этого Центра культуры, он работать не будет.

**– Коллектив вас поддержал?**

– Два человека уволились в конце августа.

Тогда власти вообще не знали, как реагировать на подобные заявления. Было решено отправить сотрудников в неоплачиваемый отпуск на пару недель, а потом уже посмотреть, чем всё закончится. Ну в итоге вот так и закончилось.

**– Кто теперь возглавляет Центр культуры и досуга в Поболово?**

– Поставили человека, который был одним из организаторов автопробегов в поддержку действующей власти. Сам он из Рогачева. Сейчас там, по моей информации, почти ничего не происходит.

**– Что сейчас с вашим уголовным делом?**

– Я 72 часа провел в изоляторе, потом выпустили, взяв подписку о неразглашении. При обыске 3 февраля, когда было возбуждено уголовное дело, у меня изъяли технику. 24 марта всё вернули, а 25 марта снова ворвались с обыском и опять всё забрали. И до сих пор не возвращают. Меня 25 марта тоже забрали.

**– За что?**

– Было возбуждено новое уголовное дело по статье «Разжигание межнациональной розни», я проходил в статусе свидетеля. В одной из социальных сетей кто-то оставил какое-то сообщение, но в итоге этого человека нашли. Это был не я.

А первое уголовное дело приостановили.

**– Вы с декабря без работы. За что живете?**

– Я индивидуальный предприниматель, оказываю рекламные услуги, услуги по дизайну и разработке сайтов, мобильных приложений.

Не скажу, что мое финансовое положение значительно ухудшилось. Наоборот, даже лучше стало. Да и проще теперь. В Центре культуры зарплата была мизерная – 500–600 рублей в общей сложности выходило. Не могу сказать, что на эти деньги невозможно прожить – у нас в городе живут и за меньшие. Но на работе ты находился почти по 12 часов. В принципе, я в Центр культуры шел не для того, чтобы заработать денег, а чтобы реализовать свои проекты. Но мне не дали этого сделать. Поэтому я пошел на площадь.

**– А почему вы говорите, что не дали реализовать? В одном из интервью вы рассказывали, что перевыполняли планы, всё шло прекрасно. Вас хвалили.**

– До выборов на самом деле всё было неплохо. А когда объявили избирательную кампанию и я узнал, что в президенты будет баллотироваться Валерий Цепкало, руководству прямо сказал: буду его поддерживать. Затем у нас начались перепалки с отделом идеологии, а 30 июля я вышел на пикет поддержать Светлану Тихановскую.

Проекты не удалось реализовать, потому что чиновники очень медленно думают. Мы много раз предлагали сделать, например, региональное онлайн-телевидение или рогачевское интернет-радио. Можно было выйти на совершенно другой уровень по оказанию платных услуг со стороны учреждений культуры, потому что то, как они сегодня работают, – это ненормально. Учреждения культуры висят балластом на шее государства. Мне в исполкоме говорили: вы смотрите далеко вперед, у нас многие вещи законодательство делать не позволяет. В общем, чиновники не способны быстро принимать решения.

**– Не пытались попасть на встречу с Лукашенко в Тихиничах?**

– Нет. Не вижу смысла. Думаю, если бы я вышел из дома в этот день, то туда точно не доехал бы.

Удивительно, кстати, что Лукашенко побывал только в Тихиничах – это место, куда обычно везут всех чиновников и приезжих. Но если тебя действительно беспокоит, что происходит в этом районе, езжай в другие деревни. Там совсем другая картинка, не такая, как на площадке для показухи. Многие, кстати, негативно восприняли его поездку именно потому, что он посетил только этот так называемый квадрат благополучия. Думаю, если бы это был именно спонтанный визит, а не тщательно спланированный, то на некоторых заводах Лукашенко встретили бы так, как после выборов встретили на МЗКТ.

**– А мне кажется, что сегодня люди стали спокойнее смотреть на то, что происходит. То ли привыкли, то ли смирились, то ли взвесили все за и против.**

– Нет. На мой взгляд, в регионах ситуация на грани взрыва. Год назад на акции протеста вышел так называемый средний класс, образованные люди. А сейчас недовольство высказывают и другие слои населения. В регионах ситуация критическая, потому что зарплата не растет, а цены на продукты повышаются с бешеной скоростью. Собрать детей в школу – цены космические просто!

По своей сфере работы сужу – знаю, что у некоторых компаний возникают сложности с международными переводами.

Я общаюсь с чиновниками и могу точно сказать: большинство из них всё прекрасно понимает. И они тоже хотят изменений. Потому что не хотят быть крайними.

Людям запретили протестовать. Некоторые уехали – учителя, предприниматели, молодежь массово уезжает. Обустроившись в новой стране, люди уже вряд ли вернуться в Беларусь. А уезжают же лучшие! Кто работать будет? Да, людей можно выгнать с улицы, но что дальше? Будут ли они работать эффективно, если их называют предателями и открыто говорят, что их ненавидят?

Нет позитивной повестки у власти, как выходить из этой ситуации. Значит, рано или поздно эту ситуацию прорвет. И проблемы в экономике усугубляются.

**– Забыла уточнить: вы работаете помощником депутата за деньги или на общественных началах?**

– На общественных. Для меня это как хобби. Кстати, если бы вы знали, с какими вопросами люди идут к депутатам! Парламент должен над законами работать, а мы по факту разбираемся с какой-то ерундой. Например, вот одно из последних обращений: жительница одного из сельсоветов не может себе дрова выписать. И этим должен заниматься депутат Палаты представителей!

**– Работу с избирателями никто не отменял.**

– Да, но есть ведь местные органы власти, сельсовет. Я считаю, что депутат парламента не должен такие вопросы решать. Зачем тогда сельсоветы, если люди с вопросами про дрова идут в Палату представителей?

Кстати, этот созыв депутатов довольно неплохой – много думающих людей, но им просто не дают работать самостоятельно. Сейчас Всебелорусскому собранию хотят придать конституционный статус. А Палата представителей тогда зачем? Или у нас будет сразу три палаты парламента?

На мой взгляд, выход из того политического кризиса, в котором оказалась Беларусь, только один – новые выборы.

**– Вы не планируете сменить страну?**

– Честно скажу: задумываюсь об этом. Если у нас до конца года ничего не изменится, конечно, уеду. Я-то работаю удаленно – мне всё равно, куда ехать. В идеале хотел бы на пару лет в Таиланд уехать, например. Еще Австралия мне нравится – там климат подходящий. Но если семью перевозить – значит, скорее всего, это будет Украина. Там детям легче будет адаптироваться.

**– Сколько у вас детей?**

– Двое. Старшему 11 лет, а младшей – 3,5 года.

Дети, в принципе, быстро адаптируются. Но если мы уедем, то уже не вернемся. Даже после перемен.

За границей белорусов называют золотыми эмигрантами. Потому что они очень работоспособные, не сидят на пособии, как некоторые, а сразу ищут работу. Поляки и литовцы уезжают в другие страны на заработки, а белорусы, получается, работают на экономику их страны.

**– Как жена отреагировала на ваше увольнение? Переживала?**

– Когда я потерял работу, все перекрестились. Потому что меня сутками дома не было. Это было похоже на каторгу с фиксированной зарплатой.

Жена работает преподавателем в музыкальной школе. В принципе, она нормально ко всему отнеслась. Да и финансовое положение семьи это никак не ухудшило.

Знаете, как в жизни? Если одна дверь закрывается, значит, другая открывается.

**Марина КОКТЫШ.**

